# MICRO-SERIES

IDW

# TEENAGE MUTANT NINJA TURTLES

#1 • CVR A

WILLIAMSON



# ПРАДГІСТОРЫЯ

ЯК ВЫНІКАЕ З 20 НУМАРУ СЕРЫІ КОМІКСАЎ «ПАДЛЕТКІ МУТАНТЫ НІНЗЯ ЧАРАПАШКІ», КАРАІ ТАЕМНА ПРАНІКЛА НА ВОСТРАЎ БЁРНАЎ – САКРЭТНАЕ СХОВІШЧА КРЭНГА НА ПЛАНЕЦЕ ЗЯМЛЯ. У БЛОКЕ М ЯНА ЗАБІЛА АДНАГО З УТРОМАЎ І ВЫКРАЛА ЎЗОР МУТАГЕНА.

У ТОЙ ЖА ЧАС У ВЫМЯРЭННІ ІКС ЧАРАПАШКІ НІНЗЯ ДАПАМАГАЮЦЬ МЯСЦОВАМУ НАРОДУ НЕЙТРЫНА СПЫНІЦЬ НАПАД АРМІІ КРЭНГА.






ComicsBY.by прадстаўляюць на беларускай мове:

# МІКРА-СЕРЫІ
# ПАДЛЕТКІ МУТАНТЫ НІНЗЯ
# ЧАРАПАШКІ
*злодзеі*

























ЯК ГЭТА ЗДАРЫЛАСЯ?

ЖАНЧЫНА-НІНЗЯ ПРАКРАЛАСЯ СЮДЫ І ЗАБІЛА АХОЎНІКАЎ. РЭЧЫВА ВЫКРАДЗЕНА І... АДЗІН УТРОМ **ЗАГІНУЛ.**
ВІНАВАТАЯ СКРЫЛАСЯ?
ДАКЛАДНА ТАК, СЭР. КРЭНГ ПАКУЛЬ НЕ ВЕДАЕ.
Я...
...Я ПАВЕДАМЛЮ.




ГЕНЕРАЛ?
Я РАСПАРАДЗІЎСЯ, КАБ МЯНЕ НЕ КЛАПАЦІЛІ!
ТАК, СЭР. АЛЕ АДЗІН З УТРОМАЎ ЗАГІНУЎ У СТАЗІСЕ.
ПА ЗАПІСАХ З КАМЕР БАЧНА, ШТО Ў ГЭТЫМ ПАВІННА... НЕЙ-КАЯ ЖАНЧЫНА-НІНЗЯ.


ШТО?!


МЫ ПРОСТА ДАВАЛІ ВАМ УЗНАВІЦЬ СІЛЫ ПАСЛЯ ВАЙНЫ З...
АДЫЙДЗІ АД МЯНЕ!
ТЫ НЕ ЎПАЎНАВАЖАНЫ МНЕ ДАПАМА-ГАЦЬ ДА ЗАГАДУ!
МНЕ НЕ ПАТРЭБ-НА ТВАЯ ДАПА-МОГА!
САЛДАТ ЗАСМУЧАНЫ, АЛЕ Я НЕ ЗАЎВАЖАЮ СТРАХА Ў ЯГО ВАЧАХ. ЁН ПАСМЯДЕЎ.

НЯЎЖО Я ВЫРАС РАХМАНЫМ? НЯЎЖО МАЕ НЯЎДАЧЫ З-ЗА ПРАКЛЯТЫХ НЕЙТРЫНА ЗМЯНІЛІ АДНОСІНЫ МАІХ САЛДАТАЎ ДА МЯНЕ?

У ІХ ВАЧАХ Я – СЛАБЫ?

Я НЕ ЗАЎСЁДЫ БЫЎ ТАКІМ ЖА МАГУТНАСНЫМ, ЯК ЗАРАЗ.

ПЛАНЕТА ЎТРАМІНОН.

ПРЫНЯСІЦЕ МАЕ КРОЧНІКІ, БЕЗКАРЫСНЫЯ ПАЧВАРЫ!

У МАЛАДОСЦІ Я БЫЎ БОЛЬШ...

...ЗАЛЕЖНЫМ.

Я ПАТРАБУЮ, КАБ МНЕ ПАДАЛІ ЕЖУ. І ЗАМЯНІЦЕ ЭКРАН! ГЭТЫ МНЕ ЎЖО НАДАКУЧЫЎ!

ДОБРА, КРЭНГ.

Я – ГАСПАДАР КРЭНГ!

КРЭНГ!

У ЦЯБЕ ШЧУПАЛЬЦЫ ПАШКОДЗІЛІСЯ? ЦІ ТЫ ЗАНАДТА ЗАНЯТЫ СВАІМІ ГУЛЬНЯМІ, КАБ САМОМУ ПАСТАРАЦЦА ДЗЕЛЯ СЯБЕ?

БАЦЬКА, Я-Я-Я ПРОСТА ВЫРАШЫЎ, ШТО НЕАБХОДНА ПАКАЗАЦЬ ІМ ІХ МЕСЦА.

КАБ БЫЦЬ ТАКІМ ЖА ВЯЛІКІМ КІРАЎНІКОМ І ЛІДАРАМ ЯК ТЫ.




РАДА ГАТОВА АБМЕРКАВАЦЬ НАСТУПАЛЬНУЮ АПЕРАЦЫЮ СУПРАЦЬ ТРАКСУСА, СЭР.

ДОБРА. КРОЧ ЗА МНОЙ.

БАЦЬКА... МОЖНА МНЕ З ВАМІ?

НАВОШТА, О, СЛАВУТЫ ЎТРАМІНОН, ТЫ МНЕ ТАМ ЗДАЎСЯ?




КЛЯТЫ ВОРАГ МАЙГО БАЦЬКІ, ТРАКСУС, БЫЎ ПАСАДЖАНЫ ЗА КРАТЫ НА МОРБУСЕ, ПЛАНЕЦЕ З ВАРОЖЫМ СТАНОВІШЧАМ, ДЗЕ ТРЫМАЛІ САМЫХ НЕБЯСПЕЧНЫХ ДЛЯ ВЯРХОЎНАЙ РАДЫ ЎТРОМАЎ ПАЛІТЫЧНЫХ ВЯЗНЯЎ.


ЗАРАЗ ЖА, ЁН АДОЛЕЎ ТУРЭМШЧЫКАЎ І САБРАЎ АРМІЮ ТЫХ, ХТО НЕНАВІДЗЕЎ МАЙ-ГО БАЦЬКУ НЕ МЕНШ, ЧЫМ ЁН САМ... РАЗ-АМ, ЯНЫ ПЛАНАВАЛІ СКАНАННЕ ІМПЕРЫІ ЎТРОМАЎ.


МОЙ БАЦЬКА І РАДА ЗБІРАЛІСЯ АТАКАВАЦЬ І ЗДУШЫЦЬ ПАЎСТАННЕ.
ГЭТАЯ МІСІЯ - САМАГУБ-СТВА!
ТОЛЬКІ КАЛІ МЫ ЗРОБІМ ТОЕ, ЧАГО ЯНЫ ЧАКАЮЦЬ - ПОЙД-ЗЕМ У ЛОБ НА ТУРМУ. АД-НАК, ВЫСАДКА НА БАЛОЦЕ НА ПОЎНАЧЫ... ДАЗВОЛІЦЬ НАМ УВЕСЦІ ВОЙКІ НЕЗАЎВАЖНЫМІ І НАПАСЦЬ У НАЙБОЛЬШ ВЫ-ДАТНЫ МОМАНТ.
ГЭТАЕ БАЛОТА - АДСКАЯ ДЗІРА... ЯНЫ НЕ ЧАКАЮЦЬ, ШТО МЫ ПАПРЭМСЯ ТУДЫ.


ТРАКСУС ПАШКАДУЕ.
ВЫКАНАННЕ ГЭТАЙ МІСІІ ДАРУЧЫЛІ ЛЕПШЫМ ВОІНАМ УТРАМІНОНА.


КАЛІ Я НАМЕРВАЎСЯ ДАКАЗАЦЬ БАЦЬКУ СВАЮ ЗНАЧНАСЦЬ...


...ТАДЫ ЧАС ПРЫЙШОЎ.


ZZZOOWOSSH
СПАДЗЯЮСЯ, ВЫ ГАТОВЫ, ХЛОПЦЫ!


МОРБУС – АДНО З НАЙГАРАЧЫХ ПА-ЛЕЙ БОЮ, ШТО ВАМ СУСТРАКАЛІСЯ.
А ПАД КІРАВАННЕМ ТРАСКУСА ЯНО СТА-НЕ КУДЫ БОЛЬШ СМЯРОТНЫМ.


АЛЕ НІЯКАЙ КУПЦЫ ЗЕКАЎ НЕ ПАРАЎНАЦЦА З ЭЛІТАЙ УТРАМІНОНА!


Я ВЕДАЎ, У ЧЫМ РЫЗЫКА ПРАНІКНЕННЯ НА КАРАБЕЛЬ, АЛЕ ПАСЛЯ ЖЫЦЦЯ Ў БЯСПЕЦЫ І КАМФОРЦЕ ГЭТА ПАЧУЦЦЁ НЕБЯСПЕКІ ЎЗРУШАЛА.


Я ДАВЕДАЮСЯ ПРА БІТВУ. Я БУДУ ГАСПАДАРЫЦЬ.
WHOOSSSHH


Я ВЯРНУСЯ ДАДОМУ ГЕРОЕМ.


ХАЦЯ Б АДНОЙЧЫ БАЦЬКА БУДЗЕ МНОЙ ГАНАРЫЦЦА.


САЛДАТЫ, КАЛІ ЎМАЦУЕМСЯ НА ПАЗІЦЫІ, ТРЭБА ЗАНЯЦЬ УЗВЫШША. Я ПАВІНЕН ДАКЛАДНА ВЕДАЦЬ, ШТО ЛЯЖЫЦЬ МІЖ НАМІ І ТУРМОЙ.


ТРАКСУС І НЕ ДАВЕДАЕЦЦА, ХТО НАПАЎ НА ЯГО.


KRAM


КАМАНДЗІР!
НЕ РУХАЦЦА! ЯНЫ ТУТ УСЁ ЗАМІНІРАВАЛІ!
Ш-ШТО ЗА ГУК?
VRRMMMM


А, УЛЮБЛЁНАЕ КУАНІНАМ, ТЫПІЧНАЕ НАПАДЗЕННЕ «СПОТАЙКУ».
VRRMMMM


ГЭТЫЯ ТРУКІ НІКОЛІ НЕ СТАРЭЮЦЬ, САРПАЎДЫ?


У АТАКУ!
KST KST KST KST


ТРАКСУС ВЕДАЎ ТАКТЫКУ МАЙГО БАЦЬКІ.
ТАМУ ЗАГАДЗЯ ПАДРЫХТАВАЎ ПАСТКУ... І ЧАКАЎ, КАБ ПЕРАСТРАЛЯЦЬ НАС ЯК ЗАГНАНЫХ ЗВЯРОЎ.
Я І ЎЯВІЦЬ САБЕ НЕ МОГ ПАДОБНАЕ ЗНІШЧЭННЕ.

BOOM




І ГЭТА ЛЕПШЫЯ ЛЮДЗІ, ЯКІХ КУАНІН ЗМОГ ПАСЛАЦЬ?
ООХХ...


МОЙ ДАЎНІ ВОРАГ ЗГУБІЎ **ХВАТКУ**.
SPLAT


ЯГО ЗНІШЧЭННЕ ПРОЙДЗЕ НАВАТ ЛЯГЧЭЙ, ЧЫМ Я ЧАКАЎ.
ПАКІНЬЦЕ ІХ **ГАРЭЦЬ**. МЫ ВЕРНЕМСЯ, КАЛІ ГЭТЫ ТЛЯТВОРНЫ ПАХ РАЗВЕЕ ВЕЦЕР.

ЦІ БЫЎ У ТЫМ ПОСПЕХ ЦІ ЛЁС, ШТО Я ЗДОЛЕЎ ПЕРАЖЫЦЬ ТОЙ НАЛЁТ, МЯНЕ **НЕ ХВАЛЯВАЛА**. ТРЭБА БЫЛО ВЫРАШАЦЬ БОЛЬШ СУР'ЁЗНЫЯ ПРАБЛЕМЫ...

...ПРА БАЛОТЫ МОРБУСА ХАДЗІЛІ ДУРНЫЯ ЧУТКІ. РАСЛІНЫ, ЖЫВЁЛІНЫ, МЯСЦОВАСЦЬ – УСЁ БЫЛО **СМЯРОТНА НЕБЯСПЕЧНЫМ**.

АДЗІН ТОЛЬКІ КІСЛОТНЫ ДОЖДЖ МОГ ЛЁГКА ЗАБІЦЬ.

КАЛІ Б Я НЕ ДЗЕЙНІЧАЎ ХУТКА, ТАДЫ Б ЗАГІНУЎ...

...І СКАНАЎ БЫ Ў НЕВЯДОМАСЦІ. АДЗІН.

ТАК І НЕ СТАЎ БЫ ЛІДАРАМ НАРОДА.


МОЙ БАЦЬКА МЕЎ РАЦЫЮ.
KKSHHSSS
AAA!


Я ЗРАБІЎ СЯБЕ БЕСКАРЫСНЫМ.
АСУДЖАНЫ ЗАГІНУЦЬ ЯК АХВЯРА ДРАПЕЖНІКА.


ПРЭЧ АД МЯНЕ, МЯРЗОТНАЯ ІСТОТА!


THK


HHSS


АЛЕ ПОТЫМ ЗДА-РЫЛАСЯ НЕШТА ДЗІЎНАЕ.


Я ВЫЖЫЎ.
І КАЛІ ГАДЗІНЫ РАСЦЯГВАЛІСЯ Ў ДНІ, Я ЗРАЗУМЕЎ...


...ШТО Я **МАЦНЕЙ**, ЧЫМ ДУМАЎ.
Я БЫЎ АДЗІНЫМ УТРОМАМ, ШТО ПЕРАЖЫЎ БОЙ З ТРАКСУСАМ І ДА ГЭТУЛЬ БЫЎ ЖЫВЫМ НА ТОЙ ПЛАНЕЦЕ. Я АЦАЛЕЎ.


Я **ДАКАЗАЎ**, НА ШТО ЗДОЛЬНЫ.




...А **НОВЫ** КРЭНГ МОГ ПАКЛАПАЦІЦЦА ЗА СЯБЕ.


АЛЕ ПРОСТАГА ВЫЖЫВАННЯ НЕДАСТАТКОВА. Я АБАВЯЗАНЫ БЫЎ ЗАВЯРШЫЦЬ МІСІЮ.


Я НЕ ЗДАЎСЯ.


УСЕ, У ТЫМ ЛІКУ МОЙ БАЦЬКА, СУМНЯВАЛІСЯ Ў МАЁЙ КАШТОЎНАСЦІ.




Я БОЛЬШ НЕ МАРНАВАЎ ЖЫЦЦЁ НА ЦАЦКІ І ЖАДУНКІ.


БЕЗДАПАМОЖНЫ КРЭНГ ЗАСТАЎСЯ Ў МІНУЛЫМ...


ТРАКСУС ПАВІНЕН ЗДОХНУЦЬ.


І ТОЙ ЧАС, ШТО Я ПРАБЫЎ НА МОРБУСЕ, ПАКАЗАЎ МНЕ, ШТО РОЗУМ – МАЯ НАЙМАЦНЕЙШАЯ ЗБРОЯ.


HHHSSS
HHSSSS

АДГЭТУЛЬ...

...ЛЮБЫ, ХТО КІНЕ МНЕ ВЫКЛІК, ПАМРЭ АД МАІХ РУК...

...ІМГНЕННА АДСТУПІЦЬ ЦІ СТАНЕ...

...МАІМ РАБОМ.

ЦЯПЕР Я БЫЎ
ГАТОВЫ ДА
БІТВЫ.















РАСПЕШЧАНЫ ПРЫНЦ ЯВІЎСЯ ПАХВАЛІЦЦА СВАЁЙ НОВАЙ ЗВЯ-РУШКАЙ?


У АПОШНІ РАЗ ТЫ КІНУЎ МАЙМУ БАЦЬКУ ВЫКЛІК, ТРАКСУС. ПРЫЙШОЎ ЧАС РОСКВІТУ ЗА **НЕПАДПА-РАДКАВАННЕ**.


СЭР, ДАЗ-ВОЛЬЦЕ МНЕ І ТРААГУ...
НЕ, ГРАНІТАР. Я САМ МАГУ ЗЛАДЗІЦЬ З ГЭ-ТЫМ ЖАЛАСНЫМ УТРОМЧЫКАМ.
ПОТЫМ АДПРАЎЛЮ ЯГО БЕЗ-ДЫХАННАЕ ЦЕЛА ДА БАЦЬКІ, КАБ КУАНІН ДАДАЎ ЯГО Ў СВОЙ ДОЎГІ СПІС **НЯЎДАЧ**.


HSSS


РРРАААААА!


АААААА!


ЗАГІНЬ!
ЗАГІНЬ!
CHUK


ЭК!


Ш-ШТО ТЫ РОБІШ?


ТЫ ПЕРАМОГ НАЙВЯЛІКШАГА З НАШЫХ ВОІНАЎ.
ЦЯПЕР ТЫ - НАШ ПРАВАДЫР. ТАКІ ЗАКОН НАШАГА НАРОДА. МЫ ЧАКАЕМ ТВАЙГО ПЕРШАГА ЗАГАДА.


ЗАХАВАЙЦЕ ЦЕЛА ТРАКСУСА.
У МЯНЕ НА ЯГО ПЛАНЫ.
ПАСЛЯ ГЭТАГА, АВАЛОДАЦЬ АРМІЯЙ ТРАКСУСА БЫЛО ДРОБЯЗЗЮ.


З ДАПАМОГАЙ ТРААГА І ГРАНІТАРА МНОГІЯ З ПАПЛЕЧНІКАЎ ТРАКСУСА ПАБАЧЫЛІ Ў МЯНЕ **БУДУЧЫНЮ**.
УБАЧЫЛІ САПРАЎДНАГА ЛІДАРА. ТАК, ЯНЫ ДАВЕРЫЛІ МНЕ СВАЕ ЖЫЦЦІ.


ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ ВЯРНУЦЬ ЗНЯВОЛЕННЫХ У КАМЕРЫ, Я ПРАПАНАВАЎ ІМ ПРАЦАВАЦЬ НА МЯНЕ.
НЕКАТОРЫЯ ЗГАДЗІЛІСЯ...


...НЕКАТОРЫЯ **НЕ**.


КАЛІ ПРЫБЫЎ МОЙ БАЦЬКА...
УВЕСЬ МОРБУС УЖО БЫЎ У **МАІХ НОГ**.
МНЕ ЦЯЖКА БЫЛО ПАВЕРЫЦЬ, ШТО КРЭНГ ЗМОГ БЫ...

ВІТАЮ, ІМПЕРАТАР КУАНІН.
МАЯ АРМІЯ ДА ТВАІХ ПАСЛУГ.




...З ПАВАГАЙ.


ПРАШУ МЯНЕ ПРАСЦІЦЬ, ГЕНЕРАЛ КРЭНГ.
Я ПРЫМУ ЛЮБОЕ ВАША **ПАКАРАННЕ**, СЭР.


НЕ ЗАКЛАПОЧ-ВАЙ СЯБЕ ТАКІМІ ДУМКАМІ, САЛДАТ.
СЮДЫ, СЮДЫ...


...ДАВАЙ, ДАПАМАЖЫ МНЕ.
Я ТАБЕ ДАЗВАЛЯЮ. НЕ ПРЫМУШАЙ АДДАВАЦЬ ЗАГАД.


СЛУХАЮСЬ, ГЕНЕРАЛ.

ЭЭЭЭК!

НІВОДНЫ ДРОБНЫ МАЛЕЦ БОЛЬШ НЕ ПАДУМАЕ, ШТО БЕЗ БРАНІ Я СЛАБЫ.

Я НЕ ПАДВЯДУ СВАЙГО БАЦЬКУ, СВОЙ НАРОД. **НОВЫ ЎТРАМІНОН** ПАЎСТАНЕ І ЗАХОПІЦЬ УСЕ ВЫМЯРЭННІ, У ТЫМ ЛІГУ ГЭТАЕ!

